Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 18 Субота 8 Верасьня 1928 г. м. Вільня. Год I



...ан БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Падпісная цана на 1 месяц 50 грашэй, на 2 месяцы 1 злоты. Заграніцу ўдвая даражэй. | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 5, | АБВЕСТКІ ПА ЎМОВЕ

# Нацыянальныя меншасьці.

Пад канец усясьветнае вайны, каб апраўдаць яе вялізарныя ахвяры у людзях *) і матэр'яльныя страты, дасягаючыя 800 мільярдаў даляраў, быў высунуты лёзунг самавызначэньня народаў.

З гэтым пекным лёзунгам выступіў нябошчык Вільсон, Прэзыдэнт Злучаных Штатаў. Аднак-жа зьдзейсьненьню гэтага лёзунгу дапамагла ня столькі перамога аружжа хаўрусьнікаў, колькі рэвалюцыя, выбухнуўшая ў 1917—18 г. у Расеі, Нямеччыне і Аўстра-Вэнгрыі, пад уладаю якіх знаходзілася найбольш паднявольных нацыянальнасьцяў.

У рэзультаце паўсталі для самастойнага жыцьця Польшча, Чэха-Славакія, Літва, Латвія, Эстонія і інш. Аднак-жа прынцып самавызначэньня народаў ня быў праведзены да канца. Каля 40 мільёнаў чалавек рожных нацыяў яшчэ асталося пад уладаю новастворaных, ці старых дзяржаваў.

Гэтыя 40 мільёнаў, не здабыўшыя сабе незалежнасьці, якія складаюць у межах іншых дзяржаваў гэтак званыя Нацыянальныя Меншасьці, якія, напрыклад, у Польшчы складаюць каля 40 проц., а ў Чэха-Славакіі на'т больш 50 проц., зьяўляюцца найбольшаю небясьпекаю міру у новай пасьляваеннай Эўропе. Ужо некалькі разоў амаль ня выбухла вайна між Грэцыяй, Баўгарыяй, Юга-Славіяй, Румыніяй, Вэнгрыяй і Аўстрыяй на грунце неўрэгуляваньня нацыянальнай праблемы.

Нацыянальная праблема ў Польшчы і Радавай Расеі яшчэ ня вырашана да гэтае пары. Дык, каб унікнуць новай непатрэбнай вайны з-за нацыянальных спрэчак, Ліга Народаў, як вышэйшы міжнародны аўтарытэт, узяла на сябе абарону інтарэсаў нацыянальных меншасьцяў. Аднак-жа дзеля таго, што ў Лізе Народаў рашучую ролю адыгрываюць дзяржавы, маючыя ў сваіх межах Нацыянальныя Меншасьці, для абароны апошніх ею нічога ня зроблена. Былі скліканы чатыры кангрэсы нацыянальных меншасьцяў, але і яны не далі ніякіх вынікаў дзеля таго, што, напрыклад, нямецкія ці польскія нацыянальныя меншьсьці, маючыя за сваею сьпіною пакроўныя дзяржавы, могуць больш зрабіць для аблягчэньня свайго лёсу шляхам беспасрэдніх дыплёматычных гутарак між гэтымі дзяржавамі, чым пры помачы Лігі Народаў і дзеля гэтага не патрабуюць яе апекі. Дзякуючы гэтаму на кангрэсе нацыянальных меншасьцяў у Жэнэве ў мінуўшым годзе палякі дэманстрацыйна пакінулі кангрэс. У кангрэсе-ж, які толькі што адбыўся ў Жэнэве ў гэтым

*) З 42 мільённай арміі хаўрусьнікаў забітых было 5,408,000 чалавек. З 24,4 мільённай арміі цэнтральных дзяржаваў забітых было 3,855,000 чал. і раненых 7,023,000. Лічба гэта не ахапляе яшчэ сотняў тысяч цывільнага насельніцтва памёрщых ад голаду, хваробаў і эпідэміяў.

месяцы, палякі ня прыймалі актыўнага ўдзелу, а былі толькі ў характары дагляднікаў. Не прыбылі і жыды з Польшчы, не чакаючыя ніякай карысьці ад кангрэсу.

Зачыніўшыся ў канцы мінуўшага тыдня IV кангрэс нацыянальных меншасьцяў у Жэнэве вынес наступную рэзалюцыю, выражаючую поўны недавер Лізе Народаў:

IV Эўропэйскі кангрэс нацыянальных меншасьцяў сцьвярджае, што Ліга Народаў у пачатку сваей дзеяльнасьці, як вышэйшы міжнародны аўтарытэт, рашучым чынам узяла пад сваю апеку мінімум праў меншасьцяў. Кангрэс бачыць у гварантыях, узятых на сябе Лігаю Народаў, першы этап міжнародных сродкаў, якія ў інтарэсах агульнага міру павінны пралажыць шлях да выраўненьня ўсіх нацыянальнасьцяў у паасобных дзяржавах паводле іх канкрэтных варункаў і да стварэньня атмасфэры даверу і дзяржаўна-палітычнага супрацоўніцтва між пануючаю і меншасьцёваю нацыянальнасьцямі.

Між тым пасьля 8 гадовай дзейнасьці Лігі Народаў Кангрэс заўважвае недастатачнае правядзеньне ў жыцьцё прынятых на сябе Лігаю абавязкаў. Дзеля гэтага IV Эўропэйскі кангрэс нац. меншасьцяў заяўляе, што даверу да Лігі Народаў, як да гварантта правоў меншасьцяў, моцна пахістана сярод нац. меншасьцяў, налічваючых 40 міл. чалавек, а з імі і сярод яшчэ больш шматлікіх колаў, якія падзяляюць іх пункт гледжаньня на заданьне Лігі Народаў. Для вырашэньня проблемы меншасьцяў Лігаю Народаў да гэтай пары нічога паважнага ня зроблена. Забесьпячэньне правоў нац. меншасьцяў, як варунак захаваньня міру, зьяўляецца і застаецца абавязкам Лігі Народаў, Кангрэс чакае, што у будучыне яна споўніць свае абавязкі.

Дык, як бачым з гэтай рэзалюцыі кангрэсу нац. меншасьцяў, нечага надзеяцца на Лігу Народаў ці на пратэсты перад ёю, а трэба самым бараніць свае нацыянальныя інтарэсы ў межах дзяржавы шляхам беспасрэдняе згоды з пануючаю нацыянальнасьцю. Гэта добра зразумелі польскія жыды, якія зусім адмовіліся ад паездкі ў Жэвэву на кангрэс нац. меншасьцяў.

# Спыненьне дзеяльнасьці Т-ва Беларускае Школы.

Польскія газэты зьмясьцілі наступны афіцыяльны камунікат:

29 жніўня па загаду цэнтральных уладаў была спынена дзеяльнасьць Галоўнае Управы Т-ва Беларускае Школы ў Вільні. У памешканьні Т-ва на вул. сьв. Анны № 2 быў зроблены вобыск, пасьля чаго кнігі і акты былі апячатаны. Аднычасова і на правіцыі былі зроблены вобыскі ў памешканьнях аддзелаў.

У зьвязку з гэтым зьвярнулася да п. Ваяводы дэлегацыя ў складзе п. Крука, Астроўскага, Трэпкі і Шнаркевіча, якую прыняў начальнік бесьпячэнства п. Кіртыкліс. Дэлегацыя прасіла аб адмене загаду Старасты ў справе спыненьня дзеяльнасьці Т-ва Бел. Школы, заяўляючы, што гэты загад ліквідуе ўсе плады культурнае працы Т-ва і цягне за сабою ліквідацыю Віленскае і Радашкоўскае Гімназіяў, канцэсыянерам якіх зьяўляецца Т-ва. Дэлегацыя прасіла ўказаць матывы, на падставе якіх стала спынена дзеяльнасьць Т-ва.

Начальнік бесьпячэнства п. Кіртыкліс па ўпаважненьню п. Ваяводы ў адказ заявіў, што спыненьне дзеяльнасьці Т-ва Бел. Школы не выклікана жаданьнем ніштчыць плады культурнае працы, як роўным чынам і жаданьем зьліквідаваньня беларускіх гімназіяў. Выклікана гэта было выключна толькі матывамі публічнае небясьпекі, бо сталы кантроль за деяльнасьцю Т-ва сцьвярджае, што яно знаходзіцца пад уплывам антыдзяржаўных чыннікаў, што рад паасобных гурткоў быў апанаваны гэтымі чыннікамі і што вучні гэтых беларускіх гімназіяў былі вогнішчам сталага сыстэматычнага хваляваньня. Усе гэтыя зьявішчы не маглі далей зносіцца, тым балей, што робленыя некаторымі сябрамі Т-ва высілкі, у тым ліку і самім старшынёю, скіраваць дзеяльнасьць Т-ва на шлях, згодны з статутам культурнае працы, не далі пажаданых вынікаў.

Начальнік бесьпячэнства п. Кіртыкліс заявіў дэлегацыі, што ў зьвязку з гэткаю сытуацыяй далейшы лёс Т-ва Бел. школы будзе залежаць выключна ад становішча сяброў гэтага Т-ва ў адносінах да прапазыкі ўладаў.

Дык, як відаць з гэтага афіцыяльнага асьведчаньня, Т-ва Бел. Школы не зачынена, а толькі спынена дзеяльнасьць Галоўнае Управы Т-ва, а правінцыянальныя аддзелы істнуюць далей. Яны толькі папярэджаны, што калі ў вызначаны час ня адлучацца ад шкодных для польскае дзяржаўнасьці адзінак і ня будуць прытрымліваццa статуту, дык у хуткім часе ўлады зробяць прапазыку аб закрыцьці Т-ва Бел. Школы.

3 верасьня дэлегацыя ў складзе п. Трэпкі, Крука і Шнаркевіча ізноў адведала п. Ваяводу і прасіла аб разглядзе просьбы іх у справе спыненьня дзеяльнасьці Т-ва Бел. Школы. Пан Ваявода абяцаў разглядзець гэтае пытаньне ў бліжэйшыя дні.

# Аб чым пішуць беларускія газэты.

„Biełaruskaja Krynica“ ў № 42 дае ў перадавіцы артыкул пасла А. Стэповіча ў справе праектаў аб зьмене канстытуцыі. Між іншым піша:

> У сфэрах „едынкі“ няма згоднага пагляду на „направу“ канстытуцыі. А тымчасам лявіца і нацыянальныя меншасьці ў Польшчы ў гэтым аснаўным пытаньні выяўляюць больш менш пагляды да сябе блізкія, ня гледзячы на праграмныя рожніцы. У настроях нац. меншасьцяў і левай часьці Польшчы вычуваецца туга да канстытуцыі 17 сакавіка. З прэсы, лявіцовай асабліва, відаць імкненьне да абароны дэмакрацыі, якая ў рамках цяперашняй канстытуцыі мае шырокія магчымасьці. Паказвае гэта на тое, што на васеньней сэсыі „едынка“ ў Сойме пры разглядзе праектаў новай канстытуцыі, акажацца за слабай, а можа і пасваранай між сабой. Такім чынам можна спадзявацца, что ўрадавыя праекты толькі тады могуць быць законным спосабам праведзены ў жыцьцё, калі-б урад пайшоў на вялікія ўступкі лявіцы і аграпічыўся-б невялікімі папраўкамі сучаснай канстытуцыі.
>
> Адносіны Беларусаў да ўрадавых праектаў канстытуцыі ня могуць быць ні прыхільнымі ні роўнадушнымі. Праўда, г. зв. соймаўладзтва нам у сучасны мамэнт карысным быць ня можа, з увагі на полёнізатарскія імкненьні сярод большасьці польскіх соймавых групаў. Але трэба думаць, прыйдзе час, што Польшча ад шовіністычнага чаду ў значнай меры вылечыцца. Калі яшчэ ўзяць пад увагу тое, што пры нармальных выбарах прадстаўніцтва народаў няпольскіх у варшаўскім Сойме значна павялічыцца, то стане ясным, што не праведзеная фактычна ў жыцьцё канстытуцыя 17. III магла-б і нам Беларусам даць большую гварантыю на разьвіцьцё нашай нацыі і паглыбленьне дэмократызму, чымся праектаваная канстытуцыя.

„Доля Працы“ № 9 ў перадавым артыкуле абгаварвае справу не „зацьверджаньня на дырэктара Віленскае Беларускае Гімназіі гр. Паўловіча. Спачатку ясна кажа:

> Апошні школьны год закончыўся для беларускіх гімназіяў у Заходняй Беларусі дужа памысным для іх фактам: пры Віленскай гімназіи была створана ўрадавая камісія, якая праэкзаменавала матурыстаў Віленскае й Наваградзкае гімназіяў і выдала нашым матурыстам атэстаты, расчыніўшы ім дзьверы ўнівэрсытэтаў у Польшчы.
>
> Характэрныя былі вынікі матуральных экзаменаў: з Віленскае гімназіі памысна здалі экзамены ўсе матурысты, з Наваградзкае —з ліку шасьцёх—чатыры. І так урадавая камісія мусіла сцьвердзіць, што ўсе старыя гутаркі і польскіх школьныхъ уладаў, і польскае прэсы—аб тым, быццам навуковы ровень у Віленскай гімназіі лішне нізкі, каб гэтай гімназіі даць правы ўрадавых школаў, — усе гэтыя гутаркі былі зусім беспадстаўныя.

Далей пытаецца:

> Якая-ж прычына „забракаваньня“ сёлета дырэктара Паўловіча? Як пэдагог, здольны й сумленны, грамадзянін Паўловіч ужо сябэ паказаў:—дык не пэдагогічныя недахопы прымушаюць адсунуць яго ад кіраўніцтва гімназіяй. Дык можа палітычная „неблагонадзёжнасьць“. І гэта не, бо ведама абсалютна ўсім, што грам. Паўловіч—чалавек зусім непалітычны, што ніякай палітычнай дзеяльнасьцяй не займаецца, ды па свайму сьветапагляду належыць да кірунку вельмі й вельмі ўмяркаванага... Дык што-ж?

А тое, можам мы ад сябе дадаць, што хаця гр. Паўловіч і добры пэдагог-арганізатар, і працавіты, але сапраўды не „непалітычны“, бо інакш трудна вытлумачыць факт поўнай ігнарацыі органаў палёнафільскага кірунку на‘т у абвестках аб гімназіі у той час, калі іншыя беларускія гімназіі гэтага не выяўлялі. „Непалітычнасьць“ ня ёсьць апалітычнасьць.

Газэта „Народ“ № 15 ў артыкуле „Паўночны Кірмаш і Выстаўка ў Вільні“, апраўдываючыся ў тым, дзеля чаго „Гаспадарчы Зьвяз“ не дайшоў да згоды з іншымі беларускімі арганізацыямі і самастойна (?!) выступіў на выстаўцы, між іншым піша:

> Цікаўна заценіць, што як панове Дварчаніны зводзілі людзёў сваёй выстаўкай з мэтаю адцягнуць іх ад выставкі Бел. Гасп. Зьвязу, дык „Biеł. Krynica“, „Сялянская Ніва“ і асабліва Вярнікоўскага „Грамадзянін“ выступілі проці Зьвязу і памагалі паном Дварчанінам. Асабліва дзіўная агітацыя „Грамадзяніна“ за Дварчаніна. Калі зьвярнуць увагу, што „Грамадзянін“ выдаецца за грошы з шулерні, што мэта ягоная—шкодзіць беларускай справе, дык вывад будзе просты—Вярнікоўскі наперад ведаў, што Дварчанін ад выстаўкі адмовіцца. Ну что-ж, можам павіншаваць ім сяброўства—адзін аднаго варты.

Ой, пане „Спадару“! Дзеля чага шулернічаць фактамі? Дзе і калі „Грамадзянін“ адносна Выстаўкі выступаў проці „Гаспадарчага Зьзязу“ і падтрымліваў пасла Дварчаніна? Калі пад час выбараў у Сойм Вы падрабляліся пад „грамадаўца“, карыстаючы з радыкальных іхніх лёзунгаў і сваю перадвыбарчую газэту „Наша Бацькаўшчына“ выпушчалі „точнай копіяй“ „Долі Працы“, дык гэтае палітычнае шулерства можна было тады вытлумачыць пагоняй за мандатам.

Дзеля чаго-ж цяпер перакартоўваць факты?! Дзе і калі „Грамадзянін“ выступаў „на шкоду беларускай справе“? Чаму канцэсыя Т. Вернікоўскага горшая ад такіх самых канцэсыяў у вайсковых „эмэрытаў“ і „каляёўцаў“ і вы называеце „шулерняй“? Ой, „спадару“! Трэба мець падставы і факты, каб апэрыраваць словамі, а то, ня глядзячы на пасольскі мандат, можна апынуцца на лаве падсудных, а тады і даказвай, што сам ня ёсьць палітычным шулерам.

# Палітычная хроніка.

## Сэсія Лігі Народаў.

У панядзелак у Жэнэве адкрылася чарговая сэсія Лігі Народаў, на якую між іншымі прыбылі францускі міністр Брыян, нямецкі канцлер Мюлер, польскі міністр заграничных справаў Залескі і іншыя.

## Польска — літоўскі канфлікт у Лізе Народаў.

Рада Лігі Народаў у працягу трох з паловаю гадзін разглядала польска—літоўскі канфлікт. Пасьля высьвятленьня зложаных стара-

намі заяваў рада пастанавіла адлажыць далейшую дыскусію па гэтаму пытаньню. Румынія запрапанавала паклікаць дарадчыкаў для далейшых перагавораў. Польшча згадзілася на гэта, Літва не.

### Трагічная сьмерць францускага міністра.

У панядзелак ва Францыі трагічна згінуў міністр гандлю Бакаоўскі. Калі ён падняўся на аэрапляне, каб ляцець да Тулю, аэраплян на вышыні 500 мэтраў загарэўся і ўпаў на зямлю. З пад абломкаў аэраплану былі выдабыты 5 абвугленых трупаў пасажыраў, у тым ліку і міністра Бакаоўскага. Прычына катастрофы—затрыманьне дзеяльнасьці матору.

### Новая манархія.

Прэзыдэнт Альбаніі Ахмет Зогу абвясьціў сябе каралём.

### Штрэзэман выехаў у Жэнэву.

Нямецкі міністр загранічных спраў выехаў у Жэнэву на сэсію Лігі Народаў.

### Чычэрын у Бэрліне.

Чычэрын выехаў у Нямеччыну на лячэньне (невядома ад якой хваробы). Пры гэтым ён адведае Бэрлін і спаткаецца з Штрэзэманам.

### ССРР. рыхтуецца да вайны.

Радавы Урад зрабіў на 15 міл. руб. ваенных заказаў на Чэха-Славацкім заводзе Шкода. Затым пры Бэрлінскім гандлёвым прадстаўніцтве адкрываецца новы хімічны аддзел, якому будзе даручана рабіць замаўленьні для ваенна-хімічнае абароны. С.С.Р.Р. роўным чынам сачыць за усімі навінамі ў галіне прыстасаваньня хіміі да ваеннай справы. На чале гэтага аддзелу будзе пастаўлены адзін з чырвоных камандзіраў.

### Увядзеньне афіцэрскіх чыноў у чырвонай арміі.

Рэвалюцыйная Ваенная Рада у Маскве апублікавала загад, на падставе якой уводзяцца афіцэрскія чыны ў чырвонай арміі, скасаваныя пасьля бальшавіцкае рэвалюцыі. Уводзіцца 13 афіцэрскіх чыноў. Афіцэрам старшых чыноў даюцца дзяньшчыкі. Гэткім чынам на усім фронце паварот да старага.

### Варашылаў у Гомелі.

4 верасьня прыбыў да Гомеля Старшыня ваеннай рэвалюцыйнай рады і Камісар арміі Варашылаў. На спатканьне яму выехалі з Менску начальнік беларускага Г. П. У. Піляр і старшыня Цэнтр. Кам. беларускага Ураду Чэрвякоў. Мэта прыезду Варашылава трымаецца ў таемніцы.

## Тутэйшая хроніка.

— **Міністры Незабытоўскі, Мэйштовіч і Станевіч у Вільні.** Учора прыбылі з Варшавы да Вільні на гадауляную выстаўку міністр рольніцтва Незабытоўскі, міністр юстыцыі Мэйштовіч і міністр зямельных рэформ Станевіч. Міністры прабудуць у Вільні некалькі дзён.

— **Канфэрэнцыя прэсы на тэму Паўночнага Кірмашу.** У панядзелак а 5 гадз. у вечары адбылася на тэрэне выстаўкі канфэрэнцыя прэсы, скліканая Ваяводаю п. Рач-

## „Пэру ці Палесьсе".

### (Што робіцца і што рабіць у справе асушэньня Палесься?).

Палючая справа стварэньня ў краі новых „гаспадарчых мейсцаў" новых варштатаў працы для ўсьцяж узрастаючага насяленьня, зьлішкі якога ў сучасных паваенных варунках зьяўляюцца асабліва небясьпечным цяжарам для дзяржавы, усьцяж зьвяртае на сябе ўвагу ўлады і прэсы.

Усё кажа аб тым, быццам польская дзяржаўная ўлада зразумела цалком усю важнасьць гэтай справы для Польшчы, як дзяржавы пераважна аграрнай (сельска-гаспадарчай) і мае распачаць шырокага маштабу акцыю—у кірунку пляновага грунтоўнага вырашэньня гэтай палючай справы.

З аднаго боку польскі ўрад, шукаючы ўсьцяж новых абшараў за акіянам для эміграцыі з краю, атрымаў прапазыцыю ўраду паўдзённа-амэрыканскай рэспублікі Пэру, які ах вяруе пад польскую калянізацыю значныя абшары сваей тэрыторыі. Польскі ўрад ужо здолеў выслаць у Пэру спэцыяльную экспэдыцыю для агляду і вывучэньня на мейсцы кліматычных і гаспадарчых варункаў няведамага краю. Апошняя вестка кажа, што гэтая экспэдыцыя ўжо пасьпела вярнуцца дамоў і хутка дасьць вычэрпываючую справаздачу з сваіх дасьледаў.

З другога боку польскі ўрад распачаў падрыхтаваньне вялізарнага маштабу працаў у краі, паставіўшы рашуча на чаргу дня справу асушэньня нашага Палесься.

Агляду гэтых пачынаньняў ураду ў справе, якая так блізка датычыць жыцьцёвых інтэрэсаў нашага краю, мы павінны ахвяраваць належную ўвагу.

Дэкрэтам п. Прэзыдэнта Рэспублікі, надрук. у „Дзен. Уст." № 17, створана пры Мін. Публічн. работаў спэцыяльнае Бюро Праектаў Мэліорацыі Палесься". Задача „Бюро"—апрацаваньне агульнага праекту і каштарысу ўсей

кевічам. Канфэрэнцыя была прысьвечана абгаварываньню значэньня рэгіёнальнае выстаўкі, якая працягнецца да канца гэтага месяца. Па асабістым запросінам прыбылі на канфэрэнцыю прадстаўнікі польскіх і жыдоўскіх газэт і ад беларускіх рэдактар „Грамадзяніна“ і „Бел. Раднага“ п. Т. Вернікоўскі і „Бел. Дня“ Ф. Умястоўскі. Канфэрэнцыя адбывалася за чорнаю каваю. Высьвятленьні даваў Ваявода п. Рачкевіч і Прэзыдэнт места, ён-жа старшыня выставачнага камітэту п. Фолееўскі. У канцы канфэрэнцыі усім удзельнікам былі разданы друкаваныя матэр'ялы аб рэгіёнальнай выстаўцы для выкарыстаньня ў прэсе.

**— Адкрыцьце Гадаўлянай Выстаўкі.** У чацьвер адкрылася гадаўляная выстаўка на паўночным Кірмашы, якая працягнецца да 9 верасьня уключна. Выбудаваныя для некалькіх тысячаў жывёлы паслоны перапоўнены, на'т не хапіла мейсца для шмат жадаючых выставіць свае экспонаты. Апрача летніх экспонатаў краёвае жывёлы выстаўлена шмат расавых коней кароў, сьвіней, і авечак з іншых частак Польшчы. Пасьля аканьчаньня выстаўкі адбудзецца распрадажа на мейсцы часткі жывёлы.

**— Адведзіны выстаўкі і Паўночнага Кірмашу.** На царкоўным фэсьце ў Ушы 28 жніўня, дзе зьехалася каля 2000 асобаў, Старшыня Акружнай Рады Т-ва „Прасьвета“ на Віленшчыну п. Т. Вернікоўскі выступаў з прамовай аб Паўночным Кірмашы і Выстаўцы. Азнаёміўшы з мэтай, а дзеля гэтага і патрэбай гэтакіх Кірмашаў і выстаўкі, ён падзяліўся з слухачамі ўражаньнем з выстаўкі у Вільні і заклікаў да арганізацыі адведзін выстаўкі арганізаванымі групамі. Гэтакім чынам у верасьні чакаецца яшчэ некалькі беларускіх „выцечак“.

З заканчаньнем найбольш пільных палявых работ пачалі прыбываць на выстаўку шмат экскурсіяў з правінцыі. Найбольш экскурсіяў арганізуюць самаўрады і ральнічыя суполкі. У нядзелю 2 верасьня адведала выстаўку больш 12,000 асобаў. Найбольш вызначана экскурсіяў на гадаўляную выстаўку, якая адбудзецца тры дні.

**— З Таварыства „Прасьвета“.** Пасьля стварэньня п. Т. Вернікоўскім Акружнае Рады Т-ва „Прасьветы“ на Віленшчыне, рэшта гурткоў Т-ва ў Наваградчыне, апынуўшыхся без кіраўніцтва, разваліваюцца. Паводле вестак з Наваградчыны некаторыя з іх далучыліся да Т-ва Бел. Школы ці Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, а некаторыя зусім ліквідуюцца. Бышы старшыня „Прасьветы“ Якімовіч і яго сэкрэтарка М. Станкевічанка, заместа таго, каб бараніць збанкрутаванага А. Паўлюкевіча, ляпей больш цікавіліся-б лёсам гурткоў „Прасьветы“ у Наваградчыне, створаных агульнымі высілкамі, ці зложылі-бы з сябе утраціўшыя ужо права свае мандаты, даўшы мейсца для тых, хто хоча і можа працаваць у „Прасьвеце“.

**— Ізноў дамаганьне Жодзішак беларускіх казаньняў у Касьцеле.** Да каталіцкага Арцыбіскупа у Вільні зьявілася 10 жніўня беларуская дэлегацыя з Жодзішак з дамаганьнем ўзнаўленьня беларускіх казаньняў у Жодзіскім касьцеле. У свой час Арцыбіскуп Ялбжыкоўскі абяцаў гэта, але нешта гэта зацягнулася, і якія цяпер вынікі скуткі ад клопатаў дэлегацыі, няведама.

**— Пасольскія мітынгі.** Паслы Каруза і Сгэповіч арганізавалі справаздаўчыя мітынгі, якія адбыліся 19-VII у Жодзішках і 15-VII у Дзеркаўшчызьне. У іхнім пляне было гэткія

---

гэтай працы, а таксама—пляну фінансаваньня гэтага вялізарнага прадпрыёмства. Аб разьмерах гэтай працы сьведчыць тое, што толькі на гэтае апрацаваньне праектаў і выкананьне падрыхтоўных працаў прадбачана 4 гады, а кошты аблічаны ў 6 мільёнаў злотых!

Дэкрэт п. Прэзыдэнта прадбачыць аб'яднаньне ўсей працы прадуступных дасьледаў і вывучэньня ўсяго водна-балотнага абшару Палесься з боку чыста навуковага, тэхнічнага і фінансавага. У гэтым напрамку мае быць насамперш апрацаваны на падставе землямерных працаў агульны плян і карта ўсяго гэтага абшару. Дзеля таго будзе створана 88 сталых пунктаў землямернай сеці і 400 пунктаў нівэляцыйнай сеці. Будуць створаны, апроч таго, сеці для вывучэньня роўні і руху вадзяных масаў гэтага абшару, атмасфэрных (паветраных) зьяваў над ім і г. д. Адначасна будуць існці дасьледы гэалягічнай будовы гэтага абшару і агранамічнага характару яго грунтаў. Асобныя Камісіі, прадбачаныя ў дэкрэце, маюць пасьля на падставе ўсіх дасьледаў азначыць, якога роду сельская гаспадарка будзе найбольш суадказная і карысная на тым ці іншым кавалку гэтага ўжо асушанага абшару.

Апрача гэтага „Бюро Праекту Асушэньня Палесься“, створана яшчэ „Сталая Дарадчая Камісія“, зложаная з дэлегатаў зацікаўленых міністэрстваў, прадстаўнікаў: Палескага, Наваградзкага, Валынскага і Беластоцкага ваяводзтваў, шэфа Віленскай Дырэкцыі Водных Шляхаў і дырэктара „Бюро Праекту“. Гэта Камісія мае ўзгадняць дзеяльнасьці ўсіх адміністрацыйных і тэхнічных установаў і ўладаў, зьвязаных з распачатай працай.

Асобна ад гэтых працаў мае быць выканана апрацаваньне фінансавых падставаў усяго прадпрыёмства. *Пры гэтым мае быць быцьцам прынятым прынцып, што ўласьнікі балотных абшараў і іншых вямельных няўжыткаў за асушэньне і наагул за давядзеньне да культурнага стану іх ґрунтаў маюць заплаціць пэўнай значнай часткай сваей зямлі на карысьць тэй кампаніі фінансістаў*, якая возьме на сябе фінансаваньне ўсяго вялізарнага прадпрыёмства.

У зьвязку з гэтым у польскай прэсе зьявіліся ўжо трывогі ды перасьцярогі, слушна

самыя мітынгі зрабіць у Глыбокім, Вяўкалату і Будслаўлю. Але з прычын дажджоў гэтыя мітынгі не адбыліся. Аднак пас. Каруза адведаў гэтыя месты і, абгаварваючы з мяйсцовымі людзьмі бягучыя справы, у прыватных гутарках азнаёміў іх з пасольскай працай.

— **Маршалак Сойму Дашынскі на паўночным Кірмашы.** 5 верасьня паўночны кірмаш адведаў Маршалак Сойму Дашынскі і віцэміністр Ярошынскі.

— **Бацькаўскі Камітэт пры Віленскай Бел. Гімназіі.** 30 жніўня Віленскі Ваявода зацьвердзіў Т-ва „Бацькаўскага Камітэту Беларускае Гімназіі у Вільні". Мэтаю Камітэту зьяўляецца: падтрыманьне Гімназіі і аказаньне маральнай і матэр'яльнай дапамогі як вучням у школе, гэтак па за сьценамі школы. Залажыцелямі Камітэту зьяўляюцца: Р. Астроўскі, М. Кепель, Г, Сакалова, А. Міхалевіч, А Коўш, Р. Падагель і А. Быхавец.

— **Аб працэсе „Грамады"** Як пішуць польскія газэты ў бліжэйшых днях будзе даручаны засуджаным у працэсе „Грамады" матывы асуду, якія уложаны аж на 40 старонках машыннага друку. Ад гэтага часу кожны з асуджаных будзе мець 2-х тыднёвы тэрмін на падачу апэляцыі, якая па аканчаньні ўсіх фармальнасьцяў паступіць у Апэляцыйны Суд не раней канца кастрычніка, а разгляд яе быўбы не раней сакавіка 1929 году.

— **Польскія сельска-гаспадарчыя работнікі ў Латвіі.** У зьвязку з паяўленьнем у польскай прэсе зацемак аб цяжкім стане польскіх сельска-гасп. работнікаў у Латвіі, — эміграцыйны ўрад падае да ведама, што на падставе дагавору між эміграцыйным сельска-гаспадарчым хаўрусам, кантракты польскіх работнікаў прадугледжываюць тыя-ж самыя варункі аплаты працы, час працы, лякарскую дапамогу і страхоўку, як і для латвійскіх работнікаў.

Аднак-жа пасьля таго, як высьветлілася, што вызначаны мінімум аказаўся недастатачным, эміграцыйны ўрад зьвярнуўся да дэлегата латвійскага сельска-гаспадарчага хаўрусу з адпаведнаю заяваю і цяпер ужо плата павышана. Апрача таго эміграцыйны ўрад выслаў свайго дэлегата да Латвіі для высьвятленьня на мейсцы стварыўшайся сытуацыі і прыняцьця неабходных сродкаў.

— **Запярэчаньне.** Макар Косьцевіч просіць нас зьмясьціць, што ён ня вёў перагавораў з рэдактарам „Грамадзяніна" аб выдавецтве падручнікаў, а толькі аб выданьні перакладу з расейскага апавяданьня „Гаспадар і Работнік" Л. Талстога.

**Хто яшчэ ня быу на Гадаулянай Выстауцы? Сьпяшайцеся, бо сяньня і заутра апошнія дні.**

ўказываючыя на небясьпекі, якія хавае ў сабе такі спосаб фінансаваньня вялізарнага прадпрыёмства, якое можа вельмі значную частку(?) ўсяго гэтага адроджанага да новага гаспадарчага жыцьця абшару нашага Палесься, перадаць у рукі загранічных капіталістаў, якія пэўна-ж не заўсёды будуць лічыцца з дзяржаўнымі інтарэсамі Польшчы, а пэўна-ж яшчэ менш з жыцьцёвымі патрэбамі нашага Краю! І тутака для нашага Беларускага грамадзянства побач з польскай уладай зьяўляецца задача — пільна сачыць, каб пры перагаворах з тэй ці з іншай кампаніяй замежных капіталістаў былі забясьпечаны інтарэсы нашага краёвага хлебароба-беларуса.

Падаём з голасу польсай прэсы, як прыклад небясьпекі, атрыманую ўжо ўрадам прапазыцыю фінансаваньня працы асушэньня Палесься з боку „Амэрыканскай Цэнтральнай Жыдоўскай Арганізацыі". Гэтая арганізацыя згаджаецца даць на гэта патрэбныя капіталы, але, каб ёй якраз заплацілі за гэта чацьвертай часткай (гэта значыць блізу паўмільёна гэктараў!) усіх асушаных абшараў пад земляробскія калёніі для жыдоў з усяго сьвету... Польскі ўрад яшчэ не адказаў, як здаецца, на гэтую прапазыцыю, але, як чутно, усё-ж разглядае яе. Аб рэальнасьці небясьпекі сьведчыць тое, што жыдоўская прэса выразна націскае на ўрад, каб даў прыхільны адказ на прапазыцыю, узаляжняючы навет ад гэтага падтрыманьне ўраду з боку жыдоўскіх паслоў на Соймавым грунце!!!

Усё гэта разам узятае, і рашучыя крокі ўраду і галасы ў польскай прэсе, сьведчыць ясна аб тым, што справа гаспадарчага адраджэньня, ці можа вярней новараджэньня нашага Палесься, набірае жывой актульнасьці, пры гэтым, як бачым, ня толькі, сацыяльна-гаспадарчай, але і нацыянальна-палітычнай... Дык, здаецца, пара ўжо падаць свой голас у гэтай справе і дэмакратычнаму гаспадару і адвечнаму жыхару гэтага краю, якога яна пэўне-ж датычыць найбліжэй!..

Нядаўна ў „Кур. Варш." быў зьмешчаны артыкул інж. Тылінгера пад цікаўным загалоў-

# Карэспандэнцыі.

## Аб нашай сучаснасьці і мінуласьці.

(З Пастаўскага павету).

У сучасны мамэнт беларуская прэса хоча як найбольш яскрава адбіць жыцьцё свайго народу ў такіх формах, у якіх яно тварылася цэлымі вякамі аж да нашай сучаснасьці. А каб добра пазнаць формы жыцьця якога-небудзь народу, дык абавязкава трэба пазнаёміцца з яго мінулымі традыцыямі і звычаямі, якія добра характарызуюць данае племя. Тут трэба сказаць, што звычаямі і народнымі традыцыямі рэдка каторы народ так можа пахваліцца, як Беларусы. Амаль усе народныя традыцыі вельмі цэнным зьяўляюцца матэр'ялам для нашага народу, якія сьведчаць, што наш народ мае права на самастойнае істнаваньне і ёсьць здольным да творчай працы. Бязумоўна, кажучы аб шматлічных народных традыцыях, я ня маю на ўвазе сухі зьмест гэтых традыцыяў. Тут павінна разумецца творчая праца цэлых пакаленьняў, якая перайшла да нас дзякуючы толькі народнай традыцыі, цесна зьвязанай з некаторымі забабонамі, звычаямі нашага народу.

Да найбольш папулярнай творчай працы нашага народу належыць вусная поэзія, якая вылілася ў постаці стройных народных песьняў, якія цяпер сьпявае народ, вясёлячы сваё гаротнае жыцьцё і кожнай пары году надаючы сваю асаблівасьць.

У зьвязку з гэтым я хачу трошка напісаць аб цікавых звычаях і поглядах нашых сялян на розныя стара-забабонныя прызвычаеньні, якіх да гэтага часу трымаецца большая частка нашага насельніцтва.

З прычыны летняга сьвята Купальля ці як у нас называюць „Купальніка", я думаю ўспомніць далёкую мінуласьць, як гэта сьвята абходзілі ў да-хрысьціянскую пару. Яно якраз саўпадала і саўпадаецца з летнім сонца-варотам, калі, паводле веры нашых прадзедаў Даж-бог браў шлюб з Зямлёй. Гэта значыла, што зьбліжаецца дажлівая пара восені. Сьвята гэта абходзілася надзвычайна ўрачыста. Цэлае насельніцтва выходзіла на поле, раскладалі вогнішчы, наўперад скакалі цераз яго падзіночцы, пасьля ўзяўшыся за рукі тварылі вялікае кола і круціліся навокал вогнішча. Па іхняй веры таго, хто ня грэўся пры купальскім вогнішчы, ня міне няшчасьце ў бягучым годзе.

Верылі, а нават і шукалі кветку папараці, верачы, што яна цьвіце іменна ў купальскую ночку. Кветка папараці гэта быў сымбал ня ўсім даступнага шчасьця, бо яе вартавала злая сіла, якая заўсёды чыніць чалавеку перашкоды на шляху да шчасьця. Бязумоўна, такіх забабонна-народных традыцыяў істнуе нязьлічаная моц. Я іх тут пералічаць ня зьбіраюся, толькі можна зьвярнуць увагу на тое, што наш народ, пражыўшы ўжо столькі тысячаў гадоў, яшчэ да цяперашняга часу захоўвае гэтыя звычаі ў малазьмененай форме. Бязумоўна рэлігійныя пераканаўні трошкі зацёрлі важнасьць гэтых забабонных сьвятаў. Цяпер калі народ іх выпаўняе, дык толькі як з прызвычаеньня, або праз цікавы ўспамін даўнейшых часоў.

---

кам „Пэру ці Палесьсе", які востра крытыкуе наагул палітыку заморскай калянізацыі, якую ўрад вядзе, „толькі пасоўваючыся па лініі найменшага спраціву". Аўтар слушна падкрэсьлівае маўклівы жах тэй сучаснай эміграцыі з краю, якая часта выкідае зьлішкі насяленьня на чужыну, дзе людзі гінуць, ня маючы магчымасьці — ані вярнуцца дамоў, ані навэт падаць голасу аб сваім лёсе: скаргі іх не даходзяць да Краю!!.

Але слушна кажа аўтар, што навэт у найлепшым выпадку эміграцыя ў сучасных варунках нясе краю вялікія страты ня толькі найлепшым чэлавечым матэр'ялам, але і тымі значнымі коштамі, якія край выкідае разам з людзьмі, часта таксама на верную згубу.

Аўтар зрабіў вельмі цікаўнае абліччэньне. Адзін толькі перавоз за акіян — да Канады ці Бразыліі — аднэй сям'і з 5 асобаў каштуе цяпер *каля 4000—5000 злот.* Дык слушна ставіць аўтар пытаньне, ці ня можна на гэтыя самыя грошы для гэтай самай сям'і, якую эміграцыя засуджае амаль на верную згубу, зрабіць нешта ў краі: зрабіць для яе новы варштат працы на мейсцы. І тутака пагляд аўтара зьвяртаецца ізноў-жа на наша Палесьсе. На Палесьсі ляжыць бяз ужытку пад балотамі 1 мільён 800 тысяч. гэктараў зямлі, на асушэньне якой трэба паводле абліччэньняў каля 450 міл. злот. Такім чынам на 1 гэктар выпадае па 250 злот. на „аснаўную мэліорацыю" (асушэньне). На далейшае падрыхтаваньне гэктару зямлі пад той ці іншы культурны ужытак—на ральлю ці луг—трэба яшчэ дадаткова выдаць каля 300—400 злот. Такім чынам, каб давясьці 1 гектар палескага балота да культурна-выгаднага стану, трэба разам усярэднім *каля 600 злот.* А гэта значыць, што толькі за тыя грошы, што край выкідае на перавоз з Польшчы ў „Новы Сьвет" аднэй сялянскай сям'і, можна зрабіць для яе-ж на нашым Палесьсі новы варштат працы абшарам у 7—10 гэктараў!

Аўтар арт. абліччае, што на ўсім Палескім абшары можна такім чынам пасадзіць на зямлю да 200 тыс. сямей, зрабіўшы ў прышласьці з Палесься — „Польскую (Беларускую?!.) Галяндыю". „Прытым, кажа ён, Дзяржава

Але досыць таго, што гэтае сьвята абходзіцца і цяпер, не сказаць з урачыстасьцю, дык з вялікай прыемнасьцю моладзі. Што да яго асаблівасьці, годнай увагі культурных людзей, дык гэта ёсьць мастацкая вусная поэзія, зьвязаная з гэтым сьвятам. Напрыклад, у нашай мясцовасьці да цяперашняга часу яно абходзіцца гэтак: у ноч перад сьвятам Івана Хрысьціцеля зьбіраюцца гуртам вясковыя дзяўчаты заходзяць з аднаго канца вёскі ад папару і ідучы ў жыта ў другі канец вёскі, пачынаюць пяяць розныя песьні, якія выпадаюць на гэту пару. Песьняў гэтых такая моц, што і пералічыць нельга. Вось частка аднэй, якая пачынаецца так:

„Сягоньня ў нас Купальнічык
Заўтра Ян.
Ды выганім мы хлопчыкаў
На выган.
Разгонім іх як бараноў
Па лугу,
Ня будуць мецъ дзяўчыны больш
За слугу і г. д.

Агулам, у гэтай песьні выражаецца слушная помста дзяўчат на хлапцоў за тое, што хлапцы ня ўмеюць аддаць ім належнай пашаны.

Далей, калі моладзь выйдзе ўжо на поле і пачне раскладаць вогнішчы, дзяўчаты пачынаюць пяяць больш старую песьню паганскай яшчэ эпохі, калі людзі быццам-то былі пад уладаю розных чараўнікоў, ведзьмаў і г. д., якая пачынаецца гэтак:

„Купальлё, на купальніка
Паліце ламы вялікія,
Лавіце ведзьмы лятучыя,
Каб па жыце не лталі
Каб дабра нам не таптлі“ і г. д.

Апроч гэткіх матываў, у купальніцкіх песьнях ёсьць і іншыя, якія, напрыклад, перадаюць нам адносіны закаханага хлапца к дзяўчыне і наадварот:

„Васілька ґару капаў,
Чорную сьцежачку таптаў,
Да Манечкі ходзячы,
Гасьцінчыкі носячы...“

А далей, як яна яго сустракае;

„...Ня рада гасьцінчыку,
А рада, што ўвідзела,
Думала, што збрыдзела
Манечка прыгожая
Васілю харошаму“ і г. д.

Або ізноў другая песьня, характэрызуючая закаханага хлапца:

„Ляцела сава, навокал сяла
Ігнатка ляцеў і злавіць хацеў
Гэта-ж не сава — дзяўчынка яго“ і г. д.

Асабліва-ж ёсьць пашыраная народная лягэнда ў постаці мастацка зложанай песьні аб так званых польных кветках „браткі“, якую прыводжу цалком:

„Каля вёскі ідучы
Гаварылі ўдаўцы:
Лепей жонка першая,
Чым другая, трэцяя —
З першай жонкай
Дзеткі май,
А з другою даглядай
І з трэцяю выганяй.
— Ідзіце дзеткі служыці.
Чым мачасе гадзіці.“

Далей апісваецца лёс выгнаных дзяцей —

Сястра пайшла да двору,
Брат-жа трапіў ў кантору.

---

выдасьць на падрыхтаваньне пелескіх балотаў да земляробскай культуры толькі тыя грошы, якія мы хочам выкінуць чужаземным параходным кампаніям за перавоз нашых сялян да Амэрыкі“.

Але скажуць: добра рабіць усе гэтыя аблічэньні на паперцы! Але вось скуль узяць патрэбныя для такой вялізарнага размаху працы паўмільярда грошаў? На гэта аўтар адказвае і даводзіць, што і грошаў такіх зусім непатрэбна адразу, і пляны частковыя ёсьць гатовыя ўжо. Дык працу можна распачаць адразу. Аўтар дае тут-жа надзвычайна цікаўныя для нас інфармацыі аб сучасным стане гэтай, вялізарнай важнасьці для нашага Краю, справы.

Ён кажа, што у Мін. Публічн. Работаў ляжыць гатовы ўжо праект перабудовы і паглыбленьня верхняй часткі каналу ад Кобрына да Піны — 60 кілям. даўжыні. Кошты гэтых працаў аблічаны ўсяго на 16 мільён. злотых.

Важнасьць гэтага каналу для ўсіх ясна. Гэты канал быў-бы дасканалым вадзяным шляхам значна танейшым, як чугункавы. Паглыбленьне гэтага каналу, каб па ім маглі хадзіць караблі да 400 тоннаў, аднечасна дасьць, як „бясплатны дадатак“,— асушэньне ўсяго басэйну Верхняга Мухаўца і прылягаючых да каналу абшараў (Дубовае Балота) — усяго разам звыш 200 тысяч гэктараў!... Пляны на гэтую працу гатовыя, патрэбныя грошы невялікія, дык распачаць працу можна безадкладна і выканаць у якія 3–4 гады! Будова гэтага каналу яшчэ больш палепшыць вельмі выгадныя камунікацыйныя варункі (чыгунка, шаша), гэтага багатага абшару на чале з Кобрынам, як прышлым прамысловым асяродкам, шпарка ўздымаючы яго гаспадарчае разьвіцьцё.

У далейшым аўтар зьбівае і той агульны закід, быццам ня можна распачаць асушэньня польскай часьці Палесься незалежна ад радавай яго часткі без паразуменьня з радавым урадам у справе супольнай рэгуляцыі Прыпеці, ніжняя палова якой знаходзіцца на той бок граніцы.

„Дубовае балота“, кажа аўтар „ляжыць на 14 мэтраў вышэй роўні Піны пад Пінскам, дык можа быць асушана незалежна ад рэгуляцыі Прыпеці“. З усіх сваіх разважаньняў аўтар ро-

Як пачалі служыці,
Сталі футры насіці.
Год за годам так мінаў
Сястры брат зусім ня знаў
Сястра-ж расла, як кветка,
А прыгожа, як рэдка.
Раз на рынку спатkaліcь
Ды ўзаемна скахаліcь.
На рыначку запілі,
Шлюб у цэркві ўзялі,
У каморы спаць ляглі.
Запытаўся хлапчына:
Скуль ёсьць родам дзяўчына?
— Я ёсьць родам з-пад Міра
Сюды трапіла з двара,
А завуся Яніна,
Маю брата Максіма.
Адазвацца брат ня мог...
Толькі крыкнуў: Бог сьцярог,
Што з сястрою спаць ня лёг.
— Ідзі сястра ў цёмны лес,
Няхай цябе зьвяр'ё зьесьць,
А я пайду ўтаплюся
Ўсяму сьвету скланюся.
Вада кажа: „утаплю“
Вецер кажа: выхаплю
Бог-жа кажа: Долю дам,
Бо няўмысьле сястру ўзяў.“

Далей быццам Бог дае брату натхненьне і ён так кажа да сястры:

„Пайдзем сястра з табою
Абернемся травою.
Моладзь будзе кветкі рваць
І нас з табой памінаць.
Кожны скажа: травіца
Дзе брат жыве й сястрыца.
Цьвіцець будзем, як кветкі,
Скажа кожны: „То браткі“.

Як бачым, творчая праца нашага народу добра цьвіце і разьвіваецца ў постаці такіх мастацка зложаных песьняў, якія дзякуючы, толькі некаторым старадаўнім абрадам і звычаям, жывуць у народзе да сягоньняшняго дня.

**Вясковы.**

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Прыгатаўленьне ям пад дрэўкі.

Калі мы думаем садзіць дрэўкі увосень, дык трэба загадзя прыгатовіць ямы, каб зямля добра праветрылася, бо ў сьвежыя ямы дрэўкі садзіць нельга. Дзеля гэтага выбіраем адпаведнае мейсца пад сад (пажадана з добра—ўгноенай зямлёй і са схілам на поўдзень), абгараджваем яго, каб туды ня магла дабрацца скаціна. Пасьля адмяраем на восем аршынаў ад плоту першую лінію, на лініі адмераем мейсцы пад ямы — 10 — 12 ар. адна ад другой. Гусьцей ня раіцца, бо практыка з густой пасадкай дрэў паказала, што пры гэтым дрэвы, як разрастуцца, дык глушаць адно другое. На добрай зямлі ямы капаюцца радчэй, а на горшай— гусьцей. Ад першае лініі адмяраем другую на адлегласьць 10 — 12 ар і г. д. Як разьбіўка саду зроблена і мейсцы для ям вызначаны каламі, капаюць ямы на лепшай зямлі меншыя, а на горшай — большыя, так прыблізна ад 2 да 3 ар. у шырку і каля 1½ ар. глыбінёй. Перш скідаем верхнюю зямлю з дзернам у адну кучу, а ісподнюю — у другую. Выкапаныя ямы павінны прастаяць ня менш м-ца, каб даць

---

біць вывад, што Палесьсе можна асушаць часьцямі, не чакаючы на выкананьне агульнага пляну, дый што матэр'ялы, якія мае ўжо Мін. Публічн. Работаў, дазваляюць безадкладна распачаць гэту працу.

„Калі-ж мы будзем усьцяж чакаць, дык пройдуць вякі, пакуль пачне выконывацца „агульны пляя“ у паразуменьні з уладай на той бок граніцы...“

Што датычыць да патрэбных на працу грошаў, дык аўтар цьвердзіць, што быццам „для энэргічнага распачацьця работаў патрэбна ў гэтым годзе ня больш, як 2—3 мільён. злот., у прышлым годзе—каля 5. А далей, калі для ўсіх высьветліцца, што праца пастаўлена ўжо на моцныя ногі, — наплывуць самі сабой і пазыкі. Аўтар сьцьверджае вялізарнае зацікаўленьне нашым Палесьсем за граніцай, асабліва ў Галяндыі. Напомнім, што ў Галяндыі яе высокая земляробская культура створана амаль не цалкам на такіх-жа даўнейшых вялізарных балотах, як наша Палесьсе, а навэт яшчэ ў горшых варунках, як у нас, бо пад сталай пагрозай паноўнага заліцьця вадой з мора. Можам дадаць тутака, што зусім падобную задачу ужо распачаў ува ўсім яе вялізарным ахопе італьянскі ўрад у слаўнай сваімі страшэннымі балотамі Кампаніі, варункі якой значна горшыя ў параўнаньні з нашым Палесьсем: балоты Кампаніі заражаны малярыяй, ад якой мруць людзі, як мухі!

„За граніцай, кажа аўтар, разумеюць, што Палесьсе, гэта — скарб, багацьце краю. Дык сумна будзе, калі там пераканаюцца, што вось толькі мы гэтае багацьце выкарыстаць ня ўмеем“...

„Трэба зразумець, падсумоўвае аўтар, што справа ідзе *аб здабыцьці каляніэацыйнага абшару для мільёну сялян, якія інакш змушаны будуць эміграваць, уносячы з сабой капітал, значна вялікшы, як кошт гаспадарчага падрыхтаваньня абшараў, патрэбных для таго, каб гэтыя хлебаробы маглі астацца ў краі.* Такім чынам край выкарыстаў-бы зямельную рэформу ў Палесьсі і падвойна, калі не патройна: захавае жывымі сабе найлепшыя работніцкія сілы, захавае тыя

магчымасьць праветрыцца зямлі. Перад пасадкай дрэў прыгатаўляем для ям гной. Сьвежы хлеўны гной, калі ён мала перапрэў, не гадзіцца для ям; лепш надаецца тут кампост.

Усё сьмяцьцё, сухое лісьцё, гразь з-пад будынкаў, косьці, попел і іншыя непатрэбныя адкіды разам з торфам добра надаюцца для кампосту.

Паміж яблынямі і грушамі на лініі можна садзіць сьлівы, якія рана пачынаюць радзіць, а потым, як сьлівкі састарэюць, а яблыні пачынаюць разрастацца, іх выкідваюць вон. Паміж лініямі, пакуль дрэўкі маладыя, можна араць, садзіць варыва ці ягадныя кусты.

**Гаспадар.**

## Пажніўнае лушчэньне.

Каб павысіць ураджай яравых, неабходна ўзорваць поле зараз-жа па здыйму з яго збожжа. Хаця ў гэты час заўсёды ў гаспадара на вёсцы адчуваецца брак часу, але бяручы пад увагу тую карысьць, якую дае лушчэньне па жніўнае яго нівы, ён мусіць знайсьці свабодны дзень для лушчэньня.

Лушчэньнем завецца самае мелкае ворыва (1—1½ вер.), якое зусім лёгка па сваей працы і карысна па выніках. Пажніўнае лушчэньне засьцярагае глебу ад лішняга высыханьня, зьнішчае сарнякі, дае вольны доступ да глебы паветру, паляпшае мікробіолёгічнае жыцьцё глебы, што разам дае лепшыя ўмовы для накапленьня пажыўных матэрыяў і для павышэньня ураджаю.

Практыка і досьледы ўсталілі, што ад лушчэньня значна павялічваецца ўраджай як саломы, так і зярня. Больш ўсяго адклікаецца на лушчэньне бульба, буракі, рэпа і іншыя акаповыя расьлінкі.

Лушчыць глебу можна самым звычайным сялянскім плужком, устанавіўшы яго на глыбіню 1½ вяршкі. Лепш гэту працу выконваюць спэцыяльныя многасашніковыя плужкі — **лушчыльнікі**, якія час нашым сялянам набываць калектыўнымі сіламі вёскі Пры калектыўным скарыстаньні лушчыльніка, яго кошт можа быць зьвернутым у адно лета. Калі дзе ёсьць блізка пракатны пункт машын і сельска-гаспадарчых прыладаў, дык трэба скарыстаць магчымасьць узяць лушчыльнік у часовае карыстаньне. Лушчэньні трэба рабіць як мага раней. Кожны прапушчаны для лушчэньня дзень зьяўляецца напэўнай стратай для гаспадара.

Зараз па лушчэньні поля карысна яго забаранаваць у 2-3 сьляды, каб поле было ўспульхненым аж да самай зімовай воркі. Глеба ад лушчэньня выходзіць з добрай структурай (будовай), а да гэтага мусіць імкнуцца кожны земляроб·

**С.**

## Бібліяграфія.

### Сьпісак новых беларускіх кніжак, выйшаўшых у Вільні за І-шую палову 1928 г.

*(Выдавецтвы лацінкай азначаны зоркай).*

**І. Поэзія, Бэлетрыстыка, Сцэнічныя творы**

1) Колас Якуб: **„Сымон Музыка"** — поэма. Выданьне (у Польшчы) І-шае. Выдавецтва Белар. Выдав. Т-ва „Пагоня". Вільня, 1928 г. 211 старонак, фармату павялічанай 8-кі з прадмовай і партрэтам аўтара.

2) Колас Якуб: **„Новая Зямля"** — поэма. Выданьне ў Польшчы І-шае, наагул ІІІ-цяе. Кніжка І-шая (першых 13 песьняў). Выданьне „Народу". Вільня. 1928 г. 124 старонкі павялічанай 16-кі.

---

капіталы якія яны эмігруючы уняслі-б з краю, створыць гэтымі работніцкімі рукамі і гэтымі капіталамі новыя вялізарныя багацьці на мейсцы! Мы з свайго боку горача заклікаем урад, каб зьвярнуў найпільнейшую ўвагу на разважаньні інж. Тылінгера ў справе, маючай такое вялізарнае значэньне для гаспадарчага уздыму *нашага Краю.*

Але з нашага беларускага пункту гледжаньня трэба зрабіць да ўсяго вышэй выложанага пэўныя засьцярогі. Перадусім мы ня можам забыцца ні на хвіліну аб цеснай працоўнай, гаспадарчай і нацыянальнай сувязі Беларусі з яе ўсходняй паловай. Дзеля таго мы не радзілі-б закінуць у кут справу вялікаго агульнага пляну асушэньня ўсяго абшару Палесься ў тэхнічным паразуменьні з уладамі Ўсходняй Беларусі, тым больш, што навэт не спэцыялісту ясна, што ўся задача асушэньня польскаго Палесься цалком ня можа быць вырашана інакш, як у агульным пляне, ахопліваючым усё беларускае Палесьсе, стваракчае адзін непадзельны абшар. Зразумела, што гэта не перашкаджае выкананьню тых частковых мэліорацыяў, якія могуць быць безадкладна выкананы сіламі і сродкамі нашай Дзяржавы.

Але апроч гэтай мы павінны зрабіць яшчэ ня менш важную засьцярогу. Дагэтуль мы развражалі справу выключна толькі з боку сацыяльна-гаспадарчага. Але-ж мы ня можам абмінуць тутака цалком і нацыянальна-палітычнага боку ўсей гэтай справы.

Кожнаму ясна, што мы маем на думцы тутака і без таго страшэнна завостранае ў нашым Краі „Асадніцкае пытаньне."

Наскокі бясспрэчнай зьяўляецца патрэба супольнымі сіламі выканаць тэхнічна-гаспадарчую задачу асушэньня Палесься' настолькі спорным зьявіцца пытаньне, *каго садзіць на абшары гэтай прышлай „Палескай Галяндыі!.."*

Пэўне-ж ня трэба далей завагняць з абодвых бакоў гэтае небясьпечнае пытаньне, але-ж кожны разумее, што чыстая тэхнічна-гаспадарчая справа асушэньня Палесься ізноў падніме цесна зьвязаную з сацыяльна — і нацыянальна-палітычным пытаньнем у нашым Краі справу асадніцкай палітыкі...

3) Друцкі — Падбярэзкі: **„Байкі гумар і сатыра“—Зборнік гумарыстычных вершаў.** Сшыткі І-шы і ІІ-гі разам. Вільня 1928г. Выдавецтва „Віленскага Выдавецтва“ Б. Клецкіна. Старонак 64 пав.,16-кі.

4) Гушча Тарас: **„Нёманаў дар“** і іншыя расказы. — Зборнік новэляў. Новае выданьне „Віленскага Выдавецтва“ Б. Клецкіна. Старонак 77, фармату 8-кі. Вільня, 1928 г.

5) Твэн Марк: **„Прынц і жабрак“** — повесьць для юнацтва. З расейскага пераклаў Макар Краўцоў. Вільня, 1928 г. Выданьне „Віленскага Выдавецтва“ Б. Клецкіна. 215 старонак разьмеру 8-кі з партрэтам аўтара.

6) Неміровіч — Данчэнко В. І.: **„Стары замак“** — апавяданьне. Пераклаў з расейскага Б. Ст. Вільня 1928 г. Выданьне „Bielaruskaj Krynicy“ Старонак 39 фармату 16-кі. *)

7) Крапіўніцкі М.: **„Пашыліся ў дурні“** — жарт ў 3-х дзеях. Пераклад з украінскага. Вільня, 1928 г. Выданьне Т-ства Беларускай Школы з сэрыі „Беларускі Тэатр“. Старонак 32 павялічанай 8-кі.

8) „Беларускі Тэатр“ — зборнік беларускіх сцэнічных твораў, зьмяшчаючы ў сабе: 1) **„Па Рэвізіі“** — жарт ў 1-й дзеі М. Крапіўніцкага (пераклад з украінскага) і 2) **„Модны Шляхцюк“** — жарт у 1-й дзеі К. Каганца. Вільня, 1928 г. Выданьне Т-ства Беларускай Школы. Старонак 31 разьмеру 8-кі.

9) „Беларускія сцэнічныя творы“ — зборнік, зьмяшчаючы наступныя п'есы: 1) **„Дзядзька Якуб“** — драматычны абраз у 2-х дзеях — Фр. Аляхновіча, 2) **„На вёсцы“** — ідыльлічны абраз у 1-й дзеі Фр. Аляхновіча, 3) **„Міхалка„** — камэдыя у 1-й дзеі, пераробка з польскага і 4) **„Пярэстая красуля“** — жарт у 1-й дзеі М. Чужыніна (пераклад з расейскага). Вільня, 1928 г. Выданьне Беларускага Выдавецкага Т-ства. 48 старонак фармату 8-кі.

ІІ. **Рожныя творы.**

10) М. А. д-р.: „Бог“. — філёзофічны нарыс. Выданьне „Chryścjanskaj Dumki“. Вільня 1928 г. Старонак 24 разьмеру паменшанай 8-кі *).

11) Туронак Б. д-р: **„Гыгіена ўзгадаваньня дзіцяці“** — папулярна—навучная брашура. Выданьне „Biel. Krynicy“. Вільня 1928г. Старонак 40 фармату 16-кі. *).

12) Васілеўскі А.: **„Беларускі соньнік“.** Выданьне аўтара. Вільня, 1928 г. 67 старонак паменшанай 8-кі.

Як бачым з вышэйпададзенага, беларускі выдавецкі рух у Вільні сёлета, раўнуючы да леташняга году, быццам-то крыху аслабеў, аднак аканчальна судзіць аб гэтым можна будзе толькі у канцы году. **Язэп Сьветазар.**



## УСЯЧЫНА

### Параход кіруемы „духамі.“

На гэтых днях нямецкае ваеннае міністэрства прадэманстравала перад прадстаўнікамі прэсы і іншымі запрошанымі асобамі навейшы тэхнічны вынаходак, — а ласьне: былы ваенны браняносец „Цэрынгэн“ перабудованы гэткім чынам, што ім можна кіраваць зусім без экіпажу пры помачы радыё.

### Цягнікі бяз рэльсаў.

Пэрсыдзкі інжынер у Злучаных Штатах сканструіраваў паравы лёкаматыў, які можа хутка хадзіць бяз шпалаў і цягнуць 10 вагонаў. Лёкаматыў з вонкавага выгляду ёсьць падобны да трактару.

---

Стаючы ня толькі на грунце агульна-дзяржаўным і краёвым, але і на грунце нацыянальна-беларускім, мы павінны тутака згары зьвярнуць асаблівую увагу на тыя небясьпекі, якія абцяжваюць вельмі лёгкае і простае вырашэньне нацыянальна-палітычнага боку усей гэтай важнай справы, вырашэньне, якое у „агульна-дзяржаўным інтарэсе“ абмінула-б найбліжэйшыя жыцьцёвыя інтарэсы мясцовага беларускага жыхарства краю.

Калянізацыя *Палескіх абшараў асаднікамі можа аказацца навэт з чыста гаспадарчага боку не эканамічным разьвязаньнем задачы, уводзячым ў чыста гаспадарчую працу над адраджэньнем і уздымам Краю,—шкодныя мамэнты нацыянальнай розьні і барацьбы...*

Мы тутака зусім не заклікаем згары ўжо сварыцца над скурай яшчэ не забітага палескага мядзьведзя... Наадварот, мы выражаем веру у тое, што і гэтая балючая цяпер справа пры добрай волі з абодвых бакоў можа быць вырашана так, што жыцьцёвыя інтарэсы беларускага сялянскага масыву нашага Краю будуць пагоджаны з інтарэсамі агульна-дзяржаўнымі.

Калі польская улада запраўды знойдзе сілы і сродкі на выкананьне гэтай вялізарнай вагі гаспадарчай перабудовы бескарысных цяпер яго абшараў, падараваўшы Краю амаль нядва мільёны гэктараў добрай зямлі, дык пэўне-ж і адвечны жыхар-гаспадар гэтага краю беларускі селянін, з свайго боку можа пайсьці на пэўныя ахвяры.

За шчырую-ж працу на карысьць нашага Краю і яго працоўнага жыхарства Улада заўсёды здабудзе шчырую падзяку ад яго.

---

**Кожны Беларус павінен адведаць Паўночнаю і Рэгіянальную Выстаўкі у Вільні да 30 г. м.**

## Ахвяры аўтамабіляў у Амэрыцы.

Вашынгтонскае (Амэрыка) статыстычнае бюро вылічыла, што ў працягу апошніх 2 гад. ахвярамі самаходаў у Амэрыцы сталася 48.939 асобаў. І гэта толькі забітых. Але звычайна на аднаго забітага выпадае заўсёды каля 25 раненых. Гэтакім чынам лічба раненых за гэтыя 2 гады дасягае 1 мільён 200 тысячаў, што перавышае значна наʼт раненых у Амэрыканаў падчас апошняе вайны, якіх было ўсяго 200 000.

І чым больш цяпер ужываецца самаходаў, тым больш ахвяраў і на агульную лічбу забітых выпадае 30 працэнтаў дзяцей у веку да 15 год.

## Палёт на аэрапляне навокал сьвету ў працягу 15 дзён.

У палове жніўня г. г. з Чыкага (Амэрыка) распачнецца палёт на аэраплянах навакол сьвету, які мусіць быць выкананы ў працягу 15 дзён.

Палёт гэты арганізуе група Чыкагскіх банкіраў і будзе каштаваць каля 110.000 даляраў. Удзел у ім бярэ 3 аэрапляны. Даўжыня палёту выносіць 22.156 ангельскіх міль і мае маршрут: З Чыкага праз Сан-Францыска — Гонолюлю — Выспы на Ціхім Акіяне — Токіё — Лісабона — Азоры — Галіфакс — Чыкага.



## Куток жартаў і сьмеху.

— Мапы Янка цягне сабаку за хвост. Матка асьцярагае яго: — Янка не цягні сабаку за хвост, бо ён можа укусіць.

— эй, мамачка' я не баюся, бо з гэтага канца ён ня мае зубоў.

### Добрая рада.

— Ці ведаеш, Мікалай, я прыходжу да перакананьня, што ты жаніўся на мне не па любві...

— Эй, кінь ты гэта! Я ведаю, адкуль табе прыйшлі гэтыя чорныя думкі. — Ляпей не глядзіся гэтак часта у люстэрку.

### Клапатлівы муж...

— Калі Ваша жонка запраўды гэтак страшна кашляе уночы, дык справа вельмі паважная, Чаму-ж вы не паклікалі доктара раней?

— Да гэтай пары ня было гэтак моцна — пане доктар. Было зусім даволі, калі затыкаў сабе вушы ватаю.

### Добрая рада.

Лявон спатыкае свайго прыяцеля Янку.

— Парай, што рабіць. Я люблю маладую дзяўчыну, якая ня мае ані граша, а мне сватаюць другую, вельмі багатую. На якой жаніцца?

— Паслухай, мой дарагі, трэба ісьці за голасам сэрца. Жаніся на той беднай дзяўчыне, а мне уступі багатую.



## Паштовая скрынка.

Я н у К р у к у — Карэспандэнцыі не падходзяць. Аб „Грамаадвоэзе" — цяпер ўжо позна пісаць, што-ж датычыць пажарнае сікаўкі, дык трэба зарганізаваць у сябе пажарніцкае т-ва і тады клапаціцца праз гміну, каб адпусьцілі дарма сікаўку скарбовую.

М я й с ц о в ы — Валожынскага павету — Карэспандэнцыя атрымана.

А. Г у б і н, Маладэчна — Календар на 1929 год у свой час можаце набыць ці выпісаць з беларускай кнігарні у Вільні, адрэс: Завальная вул. № 7, ці Вострабрамская вул. № 1 ці № 2.

Г м ы р у. — Ліст Ваш атрыманы — трэба яшчэ пачакаць.





Згубленае рэгістрацыйна — вайсковае пасьведчаньне, выданае Красна—Сельскай гмінай на імя грамадзяніна вёскі Уша Кірылы Рушкевіча, лічыць няважным. Нашоўшага прашу зьвярнуць па адрэсу: в. Уша, пошта Аляхновічы К. Рушкевіч.

Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. Друкарня ім. Фр. Скарыны — Вільня, Людвісарская 1